Васіль Ліцьвінка

# ПАГАНСКАЯ ЦІ ЭТНІЧНАЯ КУЛЬТУРА?

Прынятая ЮНЕСКА 3 лістапада 2001 года "Сусветная дэкларацыя культурнай разнастайнасці" прымушае пераглядзець асноўны негатыўны падыход да культуры дахрысціянскага перыяду. Нягледзячы на тое, што ў нашым цывілізаваным свеце пануе свецкая ўлада, ідзе агрэсіўная спроба пад выглядам паезуіцку схаванай палітыкі барацьбы з амаральнымі з'явамі урбанізаванага свету паўторна, праз два тысячагоддзі знішчыць жыццёсцвярджальнасць, прыродную натуральнасць этнічнай культуры Дзядоў – нашых прапрашчураў, іх гуманістычны, пабудаваны на адзінстве чалавека з прыродай светапагляд.

Асновай яго з'яўляецца ведыйскае сцверджанне аб розных формах чалавечага існавання. Дзяды ў беларусаў – гэта "наўі-душы" кроўных, значыць родавых па матрыманіяльнай лініі нябожчыкаў, якія існуюць "на тым, іншым свеце, адкуль усё бачаць, усё знаюць". Але назіраючы з таго свету за паводзінамі родзічаў, нават маючы магчымасць адзін раз у год на Траецкія Дзяды нябачанымі з'яўляцца на гэтым свеце: каб непасрэдна паназіраць за жыццём кроўных, яны, па святой народнай веры, могуць уплываць на яго – спрыяць шчасліваму ўласнаму лёсу, гаспадарчаму поспеху, асабістаму здароўю, сцаленню ад невылечных хвароб і ў іншых цяжкіх жыццёвых абставінах. Адсюль непахісная вера ў прадвызначанасць лёсу, дзядоўская субота, калі жывы павінен быў прыйсці на могілкі, каб сустрэцца з душамі сваіх Дзядоў, выказаць праз надмагільныя галашэнні-звароты сваю вернасць іх жыццёвым гуманістычным ідэалам. Гэта быў адзін дзень тыдня, прысвечаны роздуму над сэнсам чалавечага існавання, яднання з прайшоўшымі свой віток існавання на гэтым свеце пакаленнямі людзей, каб суаднесці з імі сэнс свайго існавання, скарэктаваць адпаведна лепшым якасцям продкаў свае ўчынкі. А таму пра іх "або толькі добра, або нічога". Якая гэта выдатная філасофія адбору лепшага з жыццёвага досведу прайшоўшых пакаленняў і адначасова школа захавання разнастайнасці культуры кожнага народа, пачынаючы з першабытных форм існавання і ў розныя перыяды станаўлення агульначалавечай цывілізацыі.

Як цэласная сістэма ведаў часоў міфалагізаванага светаўспрымання Дзяды не захаваліся, але асноўныя абрысы яе, асабліва ў самым старажытным рэгіёне славянскай цывілізацыі – на Палессі, захаваліся. Тут, напрыклад, жыве кроўна-родавая сістэма святочнай культуры, якая захавала сваю прыродную прымеркаванасць да вітка Зямлі вакол Сонца, месяцавага календара, з якімі мы непарыўна звязаны, прыродных стыхій, пор года, стадый зèмляробчай працы, выспявання збажыны, садавіны. У сваім родным, самым цэнтральнапалескім Столінскім раёне у наш час было лёгка рэканструяваць гэтыя гадавыя святкі: Ушэсце ў Століне, Мікола ў Варанях, Тройца ў Турах, Прачыстая ў Радчыцку, Міхайла ў Гарадной і г. д. У родную мне памежную з Украінай вёску Церабяжоў і цяпер родзічы не толькі са Столінскага і, мінуючы мытню, з Дубровіцкага раёнаў, але, як тыя птушкі -- сімвалы "наўяў", 2 жніўня ў дзень, прысвечаны самай магутнай прыроднай стыхіі – маланцы, злятаюцца кроўныя з усяго свету. А на Зміцера 8 лістапада ўсе ідуць у суседняе ўкраінскае сяло Тумень. У часы сярэднявечча гэтыя святкі былі яшчэ і кірмашамі.

Акрамя дзядоўскіх субот на Палессі захаваліся два найбольш вялікія сумесныя з Дзядамі святы – Наўскі Вялікдзень і Наўская Тройца ў чацвер, якія лічыцца тут сакральным днём (відаць такім было калісьці і Ушэсце ў чацвер на саракавы дзень пасля Вялікадня, калі і цяпер "цягнуць жыта за валасы на небясы"). Гэта было святочнае частаванне Дзядоў, ушанавальныя звароты да іх, дыялогі з імі, у якіх з імі раіліся аб сэнсе жыцця, галашэнні-смуткі аб тым, як не хапае іх мудрасці на гэтым свеце.

Праслявянская культура Беларусі ў поўным выглядзе захавала сваю прымеркаванасць да жыццядаўцы на Зямлі –Сонца. Чатыры яго пераходныя кропкі, калі зняць пазнейшыя напластаванні, сталі галоўнымі ў святочнай культуры: вялікдзень з валачобніцтвам як сустрэча новага вітка жыцця пад час веснаваога раўнадзенства; Купалле як вышэйшая кропка росквіту прыродных сіл з іх разгулам пад час летняга сонцавароту; Багач і раскрытыя вышэй Дзяды як сімвалы сэнсу зямнога існавання і яго заканчэння пад час восеньскага раўнадзенства; Каляды як сакральна-магічны карнавалізаваны пераходны перыяд да пачатку новага вітка жыцця пад час зімовага сонцавароту. Калі светапогляд дзядоўскай веры ў рэінкарнацыю даў жыццё самабытнасці гуманістычнага менталітэту беларусаў, то акрэсленая вышэй падпарадкаванасць іх святочнай культуры космасу стварыла і выдатна захавала да нашага часу ўнікальнасць ўсёй іх этнічнай культуры, якую, на вялікі жаль, чамусьці неабгрунтавана з негатыўным адценнем называюць ***"паганскай"***

Гвалтоўнае хрышчэнне славян і ўжо больш чым тысячагадовае наследаванне яму стала ў першую чаргу змаганнем (на шчасце, у значнай ступені беспаспяховым) з жыццёсцвярджальнасцю зямнога існавання людзей, якое прадстаўляецца, як жывёльнае, каб заслужыць болей чым міфічнае быццам бы духоўнае вечнае існаванне. Гэта і ёсць тыповы езуіцкі прыём, з дапамогай якога знішчалі, праследавалі нават такіх вялікіх людзей свету, як Галілео Галілей, Джарджана Бруна, Мікалай Капернік, Францішак Скарына. Але не было б шчасця - дык няшчасце дапамагло. З'явіліся манкурты-марксісты, якія, як самазабойцы, паабяцалі "рай" на зямлі. Народ жа і да нашага часу вуснамі амаль стагадовай бабулі з вёскі Сенькава Горацкага раёна, якая яшчэ лёгенька скача ў танцы, жыццёсцвярджальна кажа: "Вось жывеш, красуешся на гэтым свеце, а там няведамака, што будзе". Пераканаўча, на шырокім грунтоўным апытанні беларусаў болей чым паважнага веку раскрыў гэта прафесар Варшаўскага універсітэта Алесь Баршчэўскі ў манаграфіі аб радзіннай традыцыі беларусаў Беласточчыны.

Пачынальнік славянскай фалькларыстыкі русін Адам Чарноцкі, які ўсё жыццё па царскай міласці вымушаны быў жыць пад псеўданімам Зарыян Даленга-Хадакоўскі, яшчэ на мяжы 18 і 19 ст. ст. у працы "Славянства да хрысціянства" раскрыў жыццёсцвярджальны характар нашай этнічнай культуры, якую мы зняважліва абзываем "паганскай" – тэрмінам, як найлепш зручным для выражэння пагардлівасці, знявагі, адмаўлення яе выдатнай мастацкай каштоўнасці. Аб апошнім ёмка сказаў у сваіх знакамітых парыжскіх лекцыях 40-х гг. 19 ст. геніяльны ўраджэнец Беларусі Адам Міцкевіч: "У русінаў у песнях і казках ёсць ўсё". Услед за імі ў 80-я гады Беларусь, этнічную культуру якой пасля паўстання Кастуся Каліноўскага асабліва вытанчана знішчалі, наведвае і запісвае мелодыі народных песень пачынальнік славянская музычнай фалькларыстыкі чэх Людвік Куба і сведчыць: *"Тое, што мы прымаем за запазычанні ў народных песнях, ёсць старажытнаславянская аснова, якую захавалі беларусы"*. У той жа час сінадальны кампазітар Львоўскі насаджаў тэзіс, што ніякай беларускай песні няма, а гэта перакручаныя велікарускія ці маларускія песні.



**Этнічная культура вяртаецца ў сцены універсітэтаў**

Чаму запазычаны з класічнай латыні тэрмін "паганская", дзе ім літаральна азначалі вясковую культуру, непрымальны, зняважлівы ў сучаснай беларускай мове? Прывяду са слоўніка кантэкст гэтага прыметніка: "Калі б чалавек быў, а то погань; Погань, мярзотнік, брудны чалавек; Не звязвайся з гэтай поганню; Паганае вядро – для памыяў; Погань ты смярдзючая" і мн. інш. У параўнанні з гэтым азначэннем, як нельга лепш, жыццёсцвярджальна, аптымістычна для будучай гістарычнай перспектывы беларусаў, адначасова вельмі старажытнага ў сваёй культуры народа і вельмі маладога ў сваёй сучаснай самастойнай дзяржаўнасці народа, адпавядае тэрмін **"этнічная культура"**.

Паказальна, што, пачынаючы з Даля, дзе пераклад лацінскага слова ***POGANUS – сельскі, вясковы, сялянскі, просты*** (даём пераклад па нетэндэнцыйнаму руска-лацінскаму слоўніку Дварэцкага і пяцітомнаму польска-лацінскаму), трансфармуецца спачатку ў ***язычніцкі***, а потым увогуле ў яшчэ адзін больш застрашальны – ***ідалапаклоннiцкі*** ( сумленны вучоны Даль усё ж паставіў пытальнік перад такім перакладам). Не лішнім будзе ўспомніць, як гэтыя ўвасабленні стыхій роднай нам маці-зямлі і прыроды гвалтоўна скідвалі з круч Дняпра, бо ў гэтым жа рэгіёне ўзнікла страшная здань Чарнобыля.

Ва ўсіх сучасных слоўніках сапраўдны сэнс лацінскага слова свядома забыты, каб да названых азначэнняў нашай этнічнай культуры дабавіць: ***гадкі, мярзотны, пошасны, дзікі, паганка, паганец*** і так да бясконцасці. У апошні час нават адукаваныя людзі, нават філолагі, што найбольш непрабачальна, спакойна ўжываюць тэрмін для азначэння сакральнай для нас этнічнай культуры. Гэта не цывілізавана. Дарэчы, разуменне гэтага слова, азначэння ў народным асяроддзі разумеецца пераважна як "па-чалавечы, разумна, правільна, падобраму, як сярод людзей прынята".

На Беларусі цывілізацыя прайшла доўгі і складаны шлях пасля праславянскай эпохі ад племяннай этнічнай культуры дрыгавічоў, крывічоў і радзімічаў праз магутную беларускую сярэдневечную дзяржаву Вялікае Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, тройчы страту дзяржаўнасці у Рэчы Паспалітай, Рускай і савецкай дзяржавах. "Не было б шчасця – дык няшчасце дапамагло". На цяперашняй тэрыторыі Беларусі захаваліся ўнікальныя формы этнічнай культуры: Ваджэнне Куста як водгукі матрыярхату на ўсёй тэрыторыі туравапінскай зямлі; Валачобніцтва як сустрэча новага года па сонечнаму календару і своеасаблівая этнічная мяжа цэнтральнай Беларусі; Жаніцьба Цярэшкі – водгулле перыяду дапарнай сям'і і татэмная Камаедзіца ў рэгіёне значнага балцкага субстрату; саракадзённыя веснавыя карагодныя ўміласціўліванні маланкі і пахаванне яе сімвалу – Стралы на Ушэсце на зямлі радзімічаў; Жаніцьба коміна як рэшткі трохвекавой сустрэчы Новага года пасля прыняцця хрысціянства адпаведна яго светапогляду восенню, калі адмірае прырода; на зямлі Кірылы Тураўскага і многае іншае. Ўсё гэта дае надзею, што беларусы вернуць сваю спрадвечную культуру, калі сэрцам успрымуць купалаўскае: "У народ і край свой толькі веру і веру ў самага сябе".

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 13. 01. 2003 г.
Наклад 2300 асобнікаў. Замова № 34.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 458 руб., 3 мес.- 1374 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.